ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ВОЛЬНАЕ + TV ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Free Hlybokaye

Жыве Беларусь!

Выдаецца са снежня 1994 г. №22(82), 22-29 кастрычніка 2001 г. Кошт па дамове

*У пазалоце восені -- векавы вяз у в. Латыголь на Глыбоччыне.*

Якая прыгажосць апошнія светлыя дні восені на Беларусі! Празрыстыя далі без канца і краю аж да краёў зубчатага бору і глыбока-сіняе, крыху паблёкшае неба. Надвор`е стаіць яснае, сонца залівае ўсё наваколле, і дыхаеш не надыхаешся свежым, прыхопленым першым марозікам, паветрам.

Міхась Машара, *"Крэсы змагаюцца"*

## Апытанне "Вольнага Глыбокага": рынак ці магазін?

Каб наблізіць газету да чытача, карэспандэнты "Вольнага Глыбокага" Юрый Калбасіч і Андрэй Храпавіцкі выйшлі на нядзельны рынак. Як вядома, усе "насельнікі" рынку дзеляцца на дзве катэгорыі: тых, хто прадае тавары, і на тых, хто іх набывае. А паколькі гандляры і пакупнікі вельмі часта выступаюць у адной асобе, мы задалі ім два пытанні: **"Што Вас прывяло на рынак і чаму аддаяце Вы перавагу нядзельнаму рынку? і "Ці задавальняюць Вас цэны на рынку?"** Спадзяёмся, што гэта рубрыка зацікавіць чытачоў, і яна прыжывецца на старонках нашай газеты. Набывайце «Вольнае Глыбокае»: у адным з нумароў Вы можаце ўбачыць сябе.



**Юля Барысёнак, студэнтка 1-га курса Полацкага дзяржаўнага універсітэта:** «Я прыйшла за прадуктамі і толькі таму я тут апынулася. Я задаволена прадукцыяй, якая тут прадстаўлена».



**Вольга, хатняя гаспадыня:** «Я аддаю перавагу рынку. Я купляла курэй на рынку, бо тут танней. Каб выжыць. Дарэчы, «Вольнае Глыбокае я набываю заўсёды».



**Святлана Гарбачова: вучаніца СШ№2 г.Глыбокае:** «Я ў восьмым класе і дапамагаю маме гандляваць на рынку. Тут мне вельмі падабаецца, з людзьмі гутарыш».



**Паўлюк Лаўрыновіч, таваразнаўца «Каапгандлю»:** «Звычайна я хаджу ў дзяржаўную краму, бо там набываю прадукты харчавання, а за прамысловымі таварамі хаджу на рынак, бо тут большы выбар. Па цане і па якасці аддаю перавагу менавіта рынку. Каб даходы дазвалялі, я б набываў тавары ў якіхнебудзь фірмовых крамах, а пакуль што гэтага няма».



**Юля Раслевіч і Аксана Агурэнь, студэнткі:** «Мы сустрэчу тут прызначылі, таму і прыйшлі».



**Азарык Сяргей, навучэнец Глыбоцкага прафесійна-тэхнічнага ліцэя:** «Рынку. Тут выбар лепшы і танней».



**Надзей Ванда Браніславаўна, пенсіянерка, жыхарка вёскі Луцк-Масарскі:** «Хачу чаго-небудзь купіць. Чаго хацела, таго не набыла. Хацелі маразільнік купіць, але іх не прывезлі. Цэны? Што ж зробіш? Цэны ўсякія».



**Грудзіс Віталь, гандляр:** «Падабаецца. Ёсць невялікія цяжкасці, але без гэтага ні адна справа не абыходзіцца».

## Грашовыя знакі "Міленіум"

З 1 кастрычніка Нацбанк Беларусі ўвёў у абарачэнне памятныя банкноты "Міленіум" вартасцю 1, 5, 10, 20, 50, 100, 500, 1000, 5000, 10000 рублёў узору 2000 года. Банкноты з'яўляюцца законным плацёжным сродкам РБ. Тыраж выпуску – 2500 штук.

## СТС толькі ў "Вольным Глыбокім"

Толькі незалежнае рэгіянальнае выданне "Вольнае Глыбокае" прапануе сваім чытачам каляровы ўкладыш з праграмай тэлеперадач, рэкламай і анекдотамі. **TV+** прапануе праграму 19 каналаў, сярод якіх **"Культура"**, **"НТВ"**, **"ТВ-6"**, **"ТВ-Цэнтр"**, **"ТНТ"**, **"АСТ"**, **"REN TV"**, **«Eurosport»**, тры польскія тэлеканалы і самы вядомы забаўляльны канал "СТС", які любяць глядзець і дарослыя, і дзеці. Іншая справа, што не ўсе тэлевізары могуць прымаць гэтыя каналы. Усяго за 100 рублёў Вы будзеце мець разнастайную інфармацыю, якую прадстаўляе "Вольнае Глыбокае" разам з укладышам **TV+**.

### Цытата першай паласы:

Не в силах нас ни смех, ни грех
свернуть с пути отважного,
Мы строим счастье сразу всех,
и нам плевать на каждого.

## Увага: конкурсы!

## Конкурс на лепшага кіяскера працягваецца

У №13(73) за жнівень 2001 года "Вольнае Глыбокае" аб'явіла **конкурс на лепшага кіяскера**, які прадасць найбольшую колькасць нашых газет. Летась, як вядома, пераможцай конкурса стала Галіна Волк, якая працуе ў кіёску, што знаходзіцца на аўтастанцыі.

Быў час, калі нашу газету кіёскі не бралі на рэалізацыю. Пасля выбараў дамова двсягнута і "Вольнае Глыбокае" можна набыць ва ўсіх кіёсках, калі газету не схаваюць і не замаскіруюць. Таму мы нагадваем усім кіяскеркам: калі Вы жадаеце сустрэць Новы год з добрым настроем і з падарункам ад "Вольнага Глыбокага", рэкламуйце і прадавайце наша выданне, бо яно ніякае не чужое, не варожае, не апазіцыйнае, а незалежнае, сваё мясцовае і вельмі патрэбнае чытачу. Жадаем Вам поспехаў у працы і перамогі!

## Дасылайце нам цікавыя фотаздымкі

У № 19(79) за кастрычнік 2001 года мы аб'явілі конкурс **"Кур'ёзы жыцця"** на лепшы фотаздымак. Прымаюцца аматарскія здымкі, здымкі з сямейных альбомаў, якія расказваюць пра цікавыя падзеі ў Вашым жыцці, ў працы. Вынікі конкурсу будуць падведзены напярэдадні Новага 2002 года. Пераможцы будуць заахвочаны.

Нагадваем, што наша газета прапанавала чытачам праводзіць вольны час з намі. Час ад часу мы будзем друкаваць крыжаванкі па-японску. Іх пераможцы такса ма будуць заахвочаны.

Мы запрашаем да супрацоўніцтва тых, хто складае красворды, мае цікавыя тэсты. І яшчэ. Калі Вы хочаце нешта купіць альбо прадаць, прарэкламаваць свой тавар – тэлефануйце нам. Аб'явы ў нас пакуль **бясплатныя**.

## Конкурс неверагодных гісторый

Ён таксама быў аб'яўлены ў № 13(73) за жнівень 2001 года. Вельмі прыемна, што Алена з Азярцоў ужо двойчы дасылала свае творы на конкурс. Яна піша нам свае гісторыі ў вершаванай форме, з гумарам, цікава і вельмі ўспрымальна. Дзякуй. Шчыра запрашаем паўдзельнічаць у конкурсе і іншых нашых чытачоў. "Вольнае Глыбокае" адзначыць лепшых аўтараў напярэдадні Новага 2002 года. Чакаем Вашых пісьмаў з гісторыямі і невялічкімі дописамі пра сябе. Яшчэ лепш, калі Вы дашліцё нам свой фотаздымак.

***Супрацоўнікі "ВГ"***

## Конкурс "Я ў XXI-ым стагоддзі"

Гэты конкурс наша газета аб'явіла ў № 11(71) за жнівень 2001 года. Мы рады, што ўжо адгукнуліся першыя аўтары, сярод якіх Жаваранак Юля з вёскі Івесь Глыбоцкага раёна, найпершая наша ўдзельніца; глыбачанін Ігар Гражэўскі, які зараз вучыцца ў Ваеннай Акадэміі ў Мінску; Ліда Міхалевіч і Тацяна Пратасевіч з Глыбокага. Некаторыя допісы мы надрукавалі, некаторыя яшчэ чакаюць сваёй чаргі. Хочацца напомніць, што гэты конкурс наша газета праводзіць з мэтай адкрыцця новых імён, новых асоб, новых майстроў пяра, якія, магчыма, стануць студэнтамі факультэта журналістыкі і прыйдуць на працу ў рэдакцыі, магчыма, нават да нас. Таму той, хто хоча звязаць свой лёс з прафесіяй журналіста, паўдзельнічаўшы ў нашым конкурсе, займее магчымасць стаць пераможцам творчага спаборніцтва і апублікаваны матэрыял прадставіць у ВНУ, як доказ супрацоўніцтва з канкрэтным выданнем. А гэта вялікі плюс пры паступленні. Запрашаем усіх, хто імкнецца расказаць пра сябе, пра свае мары, пагаварыць пра будучыню Беларусі да ўдзелу ў конкурсе **"Я ў XXI-ым стагоддзі"**. Нагадваем, што ён будзе доўжыцца да сакавіка 2002 года.

*Супрацоўнікі "ВГ"*

## Выручае зямля

Са спазненнем на месяц пачаўся навучальны год у Пастаўскім прафесійна-тэхнічным ліцэі. Першакурснікамі сёлета сталі 289 чалавек. Даволі папулярнай сярод моладзі стала спецыяльнасць "камерцыйны агент", якая дае веды асноў бухгалтарскай справы і вадзіцельскія правы катэгорыі "В". Ёсць праблемы і з зарплатамі ў выкладчыкаў. Дагэтуль яе плацілі сваечасова, а вось грошы на харчаванне, электраэнергію, ахову памяшканняў прыходзілася выпрошваць у доўг. Не будзь у калектыва 226 гектараў зямлі, цяжка было б і з рамонтам памяшканняў. А так уласнымі сіламі апрацавалі 250 тон намалочанага збожжа, частку прадукцыі прадалі, а за запасы ўдасца выручыць грошы, якія пойдуць на ўмацаванне матэрыяльнай базы. Чакаць міласці ад дзяржавы не прыходзіцца.

## Нарабіў бяды трактар

Здавалася, нічога дрэннага не павінна было здарыцца на роўнай дарозе, па якой жыхар вёскі Гута Пастаўскага раёна спакойна буксіраваў трактар Т-16. Дагэтуль незразумела, чаму агрэгат з'ехаў у кювет і перакуліўся, а чалавек за рулём загінуў. Па злому супадзенню праз двое сутак глыбокай ноччу аналагічным чынам загінуў уладальнік уласнага самаробнага трактара. Кіроўца быў п'яны і рухаўся каля дзвюх гадзін ночы без святла. З пачаткам першых тумановў і восеньскіх прыцемак на дарогах рэзка ўзрасла аварыйнасць. Калі браць увогуле, то за 9 месяцаў на Пастаўшчыне адбылося 25 дарожна-транспартных здарэнняў, у выніку якіх 5 чалавек загінулі, а 25 атрымалі розныя траўмы ці пакалечыліся.

## Улюбёныя ў сваю справу

Як ніколі плённым аказаўся бягучы год для калектыва Глыбоцкага вопытнага лягсаса. Пасля перадачы яму 4900 гектараў запушчаных калгасных лясоў, малады лес адразу пасадзілі на новых 300 га. На яго базе, дзе ёсць элітны лесагадавальнік і селекцыйны цэнтр па вытворчасці насення для пасадкі дрэў, сёлета праходзіў сусветны семінар лесаводаў і з'езд ляснічых Віцебскай вобласці. Але ўлюбёныя ў сваю справу спецыялісты пайшлі далей і ў адміністрацыйным будынку пачаў працаваць музей лесу. Акрамя прыгожых дыярам з выявімі розных жывёлін і птушак, тут па фотаздымках можна прасачыць 60-гадовую гісторыю станаўлення Глыбоцкага лягсаса, аднаго з лепшых у Беларусі.

## Садавода ўшаноўваюць на радзіме

Магчыма, ужо ў наступным годзе на радзіме вядомага беларускага вучонага-агранома І. Сікоры ў сяле Малыя Алашкі Шаркоўшчынскага раёна пачне працаваць музейны комплекс. Такая магчымасць з'явілася пасля таго, як мясцовы культурны цэнтр імя Я. Драздовіча купіў хату ў вёсцы, дзе жыў і памёр вядомы селекцыянер. Да цяперашняга вясной квітнее яго дзіўны сад, у якім 6 тысяч гатункаў яблынь, груш, сліў і іх гібрыдаў. Нястомнага садавода не стала 36 год назад, але на радзіме добра памятаюць яго. У вёсцы Малыя Алашкі штогод праходзіць свята "Светлы яблачны Спас", а два гады таму назад прама ў садзе адкрыўся музей І. Сікоры. У хуткім часе прыхільнікі таленту заслужанага агранома Беларусі змогуць пазнаёміцца з бытам, сярод якога працаваў вядомы садавод.

## Адным даўгабудам меней

Акурат да халадоў паспелі абжыцца на новай вытворчай базе работнікі Глыбоцкага ДЭУ №35. Само будаўніцтва цягнулася доўгіх 12 гадоў. Увесь гэты час дарожная тэхніка знаходзілася на вуліцы, а рабочыя цярпелі нязручнасці. З прыходам у ДЭУ новага кіраўніка Паўла Цісецкага за нейкі год, здавалася, недасягальная мара ажыццявілася. Цяпер грэйдары, трактары і машыны размясціліся ў гаражах, а людзі займелі душавы пакой, памяшканне для адпачынку, цэх для рамонту. Пасля ўваходжання ў склад РУП "Віцебскаўтадар" штат работнікаў павялічыўся да 67 чалавек. Усе яны стараюцца падтрымліваць больш-менш у парадку 200 кіламетраў дарог рэспубліканскага значэння.

## Кампенсацый дачакаліся не ўсе

У спісы для атрымання кампенсацыйных выплат пацярпелым ад нацысцкіх праследаванняў у гады другой Сусветнай вайны толькі па Мёрскім раёне уключылі прозвішчы 316 грамадзян. На жаль, няўмольны час не дазволіў дачакацца справядлівасці многім з іх. За памерлых вязняў канцэнтрацыйных лагераў Германіі і Аўстрыі грошы атрымоўваюць іх нашчадкі. Гэта работа не аднаго дня і працягнецца ў будучым годзе, паколькі выплаты вядуцца ў некалькі этапаў па меры перапічэння грашовых сродкаў. Нягледзячы на пагрозлівыя падзеі вакол Афганістана, людзі жадаюць атрымоўваць кампенсацыю ў амерыканскіх доларах, а не ў іншай валюце.

*У. Шык*

**Сустрэча з цікавым чалавекам**

Уладзімір СКРАБАТУН
краязнаўца

*Алег Трусаў:*

# «Тут жыве Беларусь -- ад крамы да могілак»

**У мінулую сераду, 17 кастрычніка, у Глыбокае завітала рэспубліканскае кіраўніцтва грамадскай арганізацыі Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ) на чале з яе кіраўніком Алегам Трусавым, а таксама першым намеснікам Людмілай Дзіцэвіч і адным з намеснікаў Сяржуком Кручковым. Гэта першы візіт кіраўніцтва ТБМ такога рангу ў наш горад за ўсю гісторыю гэтай арганізацыі.**

Алег Анатольевіч Трусаў (нар. 1954 г.) паходзіць з мсціслаўскай шляхты. Кандыдат гістарычных навук. Беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў БНФ "Адраджэньне" і БСДГ, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання, Старшыня ТБМ.

А.Трусаў – шырока вядомы даследчык беларускай архітэктуры і гісторыі матэрыяльнай культуры Сярэдняевечча і Новага часу. Па гэтай тэматыцы напісаў больш за 10 навуковых работ і каля 250 артыкулаў.

Перад тым як сустрэцца з мясцовымі актывістамі ТБМ, Алег Трусаў з калегамі наведаў рэдакцыю газеты "Вольнае Глыбокае", якая адна з нямногіх газет у краіне выдаецца цалкам на беларускай мове.

Чакалі вядомага гісторыка і ў Глыбоцкім гісторыка-этнаграфічным музеі. Тут ён падараваў сваю новую кнігу "Манументальнае дойлідства Беларусі XI – XVIII стагоддзяў", стосы газет "Голас Радзімы" і "Наша слова", буклеты ТБМ. Кніга, якую Трусаў А.А. прпанаваў чытачу, – гэта першая спроба ў Беларусі і ў іншых краінах Усходняй Еўропы даць сучасную падрабязную гісторыю развіцця будаўнічай тэхнікі і будаўнічых матэрыялаў беларускага мураванага дойлідства XI – XVIII стагоддзяў. Яна будзе цікава як для музейных работнікаў, так і для краязнаўцаў, якія займаюцца даследаваннем старадаўняга дойлідства.

Алег Анатольевіч адзначыў, што з'яўленне Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея ёсць адна з праяў беларускай незалежнасці. У свой час, калі ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета XII склікання, была прынята адпаведная пастанова, паводле якой кожны раённы цэнтр павінен мець свой музей. Госці з Мінска агледзілі экспазіцыю нашага музея і далі ёй добрую адзнаку. **Гледзячы на здымак Беразвецкай царквы, А. Трусаў сказаў: "Пройдзе гадоў дваццаць і гэты храм, адзназначна, будзе, адноўлены. Ёсць для гэтага ўсе неабходныя архіўныя матэрыялы. Думаю, што і падмуркі храма захаваліся".**

Зразумела, што даследчыка беларускіх замкаў А. Трусава цікавіў старажытны будынак на рынку "Хітрушка", які быў нядаўна выяўлены аўтарам гэтых радкоў. Аб ім пісала "Вольнае Глыбокае" і "Веснік Глыбоччыны", абласная і рэспубліканская прэса. У прысутнасці навуковага супрацоўніка музея Алеся Хайноўскага, быў даследаваны вышэй згаданы гістарычны аб'ект. На жаль, вынікі даследавання не далі магчымасці аднесці час яго пабудовы да XVII ст., як першапачаткова лічылася. Больш верагодны час яго пабудовы 1710-30-ыя гг.

Я задаў Алегу Анатольевічу пытанне наконт мэтазгоднасці захавання гэтага будынка.

— Трэба браць на ўлік. Абвясціць помнікам архітэктуры мясцовага значэння. Перадаць Глыбоцкаму гісторыка-этнаграфічнаму музею. Вось пабач, упрытык, стаіць больш пазнейшы будынак. Час яго узвядзення можна аднесці на канец XIX ст., яшчэ царскіх часоў (дарэвалюцыйны), але ніяк не польскіх часоў. Ён таксама пустуе. Вось вам два будынкі, дзе можна размясціць музейныя экспазіцыі, — адзначыў у сваім каментарыі А. Трусаў.

Па нашай прапанове А.Трусаў і яго калегі зрабілі вандроўку да касцёла Святой Ганны ў Мосары. Убачанае ў Мосары зрабіла на мінчан неверагоднае ўражанне.

— Я шмат разоў была ў еўрапейскіх гарадах. Кожны раз мяне хвалявала пытанне: "Калі ж наша родная Беларусь стане такой прыгожай? Я ніколі не думала, што ў нас на Беларусі ўжо даўно ёсць такія цудоўныя і дагледжаныя мясціны. І не дзенебудзь у горадзе, а ў вёсцы, якая далёка ад вялікіх гарадоў!"-- так выказала сваё захапленне Мосарам Людміла Дзіцэвіч.

Алег Трусаў адзначыў, што касцёл Святой Ганны з'яўляецца адным з першых помнікаў архітэктуры класіцызму на Беларусі. У ім яшчэ назіраюцца асобныя рысы стылю барока.

Быў яшчэ вольны час да сустрэчы з актывам Глыбоцкай арганізацыі ТБМ і яго скарысталі для кароткай экскурсіі па Глыбокаму. Паглядзець у нас ёсць што! Касцёл Святой Тройцы, Кафедральны сабор, Іллінская капліца, калона ў гонар Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 г., шматлікія мемарыяльныя помнікі. На цвінтары "Копцеўка" кіраўнікоў рэспубліканскай арганізацыі ТБМ зацікавіў варты ўвагі факт. На сціплым надмагільным помніку напісана: "Новік Іван Міхайлавіч. Рд.1914 – Ум.1969 ". Бачна, што пахаваны тут просты беларус. Не важна, што напісана з арфаграфічнымі памылкамі. Уражвае, што напісана гэта на роднай мове і не ў "перабудовачныя" часы, а тады, калі ўсё беларускае нішчылася.

Напрыканцы візіта ў Глыбокае адбылася сустрэча з сябрамі мясцовай арганізацыі ТБМ. З абраннем Тацяны Фёдараўны Барткевіч, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры СШ №3, яе кіраўніком, дзейнасць арганізацыі значна актывізавалася. Часта адбываюцца розныя цікавыя сустрэчы з беларускімі гісторыкамі і пісьменнікамі. Сама Т.Ф. Барткевіч арганізавала ў сваёй школе краязнаўчы гурток, выдаецца бюлетэнь "Маладзічок". А. Трусаў перадаў Глыбоцкай арганізацыі ТБМ гістарычную літаратуру, календары і буклеты і, самае галоўнае, -- сцяг ТБМ.

На развітанне я задаў А.Трусаву некалькі пытанняў.

**У.С.:** ***"Вы першы раз на Глыбоччыне. Наведалі наш горад, а таксама Удзела, Мосар. Што, як гісторык, Вы можаце адзначыць самае галоўнае?"***

**А.Т.:** "У адрозненне ад іншых рэгіёнаў Беларусі, напрыклад Гомельшчыны, дзе ўжо даўно знішчаны помнікі матэрыяльнай культуры, Глыбоччына наадварот захавала цэласнасць рэгіёна. Гэта бачна на прыкладзе Глыбокага, Удзела, Мосара і іншых населеных пунктаў. Глыбокае, бадай, адзін з нямногіх гарадоў Беларусі, дзе засталася некрануай планіроўка эпохі барока. Самому ж Глыбокаму ўвогуле патрэбны добры праект па развіццю, захаванню і рэгенерацыі культурна-гістарычнай спадчыны".

**У.С.:** ***"Спадар Алег, як кіраўнік рэспубліканскай арганізацыі ТБМ, якую Вы зрабілі галоўную выснову ад наведвання Глыбоччыны"***

**А.Т.:** "Беларусь жыве. Жыве ад крамы да могілак".

*Алег Анатольевіч Трусаў меў на ўвазе, што ў нашых мясцінах і ў крамах ёсць шыльды на роднай мове і на могільніках, на помніках, таксама беларускія надпісы. Мяне вельмі ўсцешыла тое, што спадар Трусаў сказаў: "Разбураны касцёл Святых Пятра і Паўла ў Беразвеччы можна аднавіць". Добра жыць з надзеяй на тое, што нашу гісторыю, магчыма, зможам вярнуць нашчадкам.*



**На здымку:** Сяржук Кручкоў і Алег Трусаў (справа) на прыступках касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім.

*Фота Ул. Скрабатуна*

## Не хапае волі да свабоды

**"Беларусам не хапае волі да свабоды і імкнення жыць у іншай краіне».**

Такую думку выказаў беларускі пісьменнік У. Арлоў у час прэзентацыі сваёй новай кнігі гістарычнай прозы "Сон імператара". Прэзентацыя адбылася 9 кастрычніка ў Мінскай Цэнтральнай бібліятэцы імя Я. Купалы. У. Арлоў лічыць, што сёння справа нацыянальнага адраджэння ў многім залежыць ад сітуацыі ў сям'і. "Ад таго, якое імя мы даём дзецям, на якой мове з імі размаўляем, якія казкі чытаем, як адносімся да беларускіх святаў і традыцый, залежыць будучыня новага пакалення, а, значыць, і краіны", — лічыць пісьменнік.

*М. Гаравы, БелаПАН*

# Прававы шок -- гэта па-нашаму

**За верасень 2001 года за дапамогай ў Глыбоцкае аддзяленне БХК звярнуліся дзевяць чалавек. Юрысты аддзялення кансультавалі па пытаннях выплаты кампенсацый ахвярам фашысцкай Германіі, працоўнаму заканадаўству, афармлення і атрымання наследства, страхавых выплат, аховы здароўя, адміністратыўнага заканадаўства. Большасць выпадкаў, з якімі даводзіцца сустракацца грамадскім праваабаронцам, даказвае недасканаласць многіх законаў, якія то пярэчаць адзін аднаму, то абвяргаюць адзін другога. А вынікам бязграматнасці законатворцаў становіцца чалавек, які павінен вырашаць праблемы, падкінутыя такім “цывілізаваным” шляхам дзяржавай.**

### Ваяваць – ваюй, але праблемы вырашаць будзеш сам

Вайна ў Афганістане, якая вялася Савецкім Саюзам у 80-ых, патрабавала шмат ахвяр. Невядома каго і што абараняючы, складалі на той вайне галовы маладыя хлопцы, рабіліся інвалідамі. Тады, лічылася, пашчасціла, калі пасля ранення салдата адпраўлялі з групай інваліднасці дадому. Верылі маладыя інваліды, што іх подзвігі не забудзе дзяржава, што яны, здзейсніўшы подзвіг у Афганістане, будуць беспраблемна жыць на радзіме. Абяцанні аказаліся пустымі. Гэта зведаў на сабе ўдзельнік той афганскай вайны П. з Шаркоўшчыны. Пасля вайны працаваў нейкі час у міліцыі, але па стане здароўя вымушаны быў звольніцца. Групу інваліднасці яму не даюць, сцвярджаючы, што працаваць можа. Маладога чалавека апякае маці-пенсіянерка, якая не можа набыт неабходныя лекі сыну купіць, не тое, што забяспечыць годнае жыццё. Людзі падвучылі яе звярнуцца да ўлад і давядацца пра льготы воінам-афганцам. А ўлады ківаюць на закон, які адказвае, што такія-сякія льготы будуць, (аплата за кватэру 50%-ная, скідка пры аплаце за паліва, электраэнергію, тэлефон) калі удзельнік дажыве да 60 год. Льготы будуць толькі пасля дасягнення гэтага ўзросту і ні на дзень раней. А тое, што не можаш працаваць, што няма за што жыць, — нікога не цікавіць. З гэтай нагоды хочацца ўспомніць пра сённяшнюю вайну, якая ідзе ў Афганістане. Сродкі масавай інфамацыі перадаюць, што атрады спецпрызначэння Расіі шукаюць на афганскай тэрыторыі тэрарыста №1. Ніхто не ведае, хто ўваходзіць у склад тых атрадаў. Добра, калі гэта распачатая вайна абыдзецца без беларусаў. А калі не? Хто, як і калі паклапоціцца пра ўдзельнікаў падобных канфліктаў, якім трэба і лячыцца, і апранацца, і есці?

### «У мяне прыём заканчваецца праз пяць хвілін»

17 верасня вадзіцеля Шаркоўшчынскай МПМК меліярацыі напаткала няшчасце. Ён ніяк не мог завесці аўтамабіль і ўзяўся за выратавальную “ручку”. Тая выслізнула з рук, нечакана і моцны ударыла па руцэ. У 12. 55 А. Другакоў, пра яго ідзе размова, прыйшоў у паліклініку і зайшоў на прыём да хірурга Д. Аўласа. Той сказаў, што ў яго праз пяць хвілін заканчваецца прыём і хлопца глядзець не ўзяўся. Нічога не параіў, проста адправіў з кабінета. Не ведаючы, што рабіць, Андрэй пайшоў дамоў. На прыём да другога хірурга ён трапіў толькі на наступны дзень. Аказалася, што ў хлопца пералом, яму наклалі гіпс.

Ці панясе адказнасць хірург, які, парушыўшы клятву Гіпакрата, так плёва аднёсся да пацярпелага чалавека? Згодна закона павінен панесці, ну а ў рэальнасці – наўрад.

У крымінальным кодэксе РБ ёсць артыкул 161, які прадугледжвае адказнасць за неаказанне дапамогі хвораму. Там значыцца, што падобная з'ява “караецца штрафам альбо пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады, альбо займацца пэўнай дзейнасцю, альбо абмежаваннем свабоды на тэрмін да двух год”.

### Падабраў хлеб – заплаціў штраф

19 верасня рабочы Глыбоцкага хлебазавода А. ішоў дадому пасля працоўнай змены. Па дарозе, пад кустом, непадалёк ад плота хлебазавода, падабраў, як сцвярджае ён, некім кінуты пакет з хлебам і тут жа быў затрыманы двума міліцыянерамі ў штацкім. Яны абыскалі рабочага, знайшлі хлеб, павялі на прахадную завода. Ахоўнік завода пацвердзіў, што А. з завода выходзіў без пакета. Нягледзячы на гэта, быў складзены пратакол. Суд прызнаў А. вінаватым. Самае страшнае ў дадзеным выпадку, калі чалавек пацярпеў без віны. Не будзем пярэчыць, што на заводзе крадуць, што перакідваюць хлеб праз плот, каб пасля падабраць. Але перш чым прызнаць чалавека вінаватым, трэба гэтую віну даказаць. А пакрыўджаны А. дамагаецца справядлівасці. І на гэта ён мае законнае права.

### Каму мы плоцім, страхуючы аўтамабіль?

Раней, калі чалавек страхаваў свой аўтамабіль, ён верыў, што ў выпадку няшчасця з яго чатырохкалёсным сябрам, страхавая кампанія верне яму суму ўрону. Зараз некаторыя ў гэтыя казкі не вераць. Выпадак, які нядаўна адбыўся з глыбачанінам, пераконвае, што падобнае страхаванне — адна з магчымасцяў папоўніць да немагчымасці тошчы бюджэт дзяржавы. М. пакінуў свой аўтамабіль, як заўсёды, ля хаты, збоч дарогі. Праз гадзіны дзве выйшаў на вуліцу і вачам сваім не паверыў: абедзве дзверыны з правага боку былі пакурожаныя, памятыя, пабітыя, угнутыя. Вінаватага і след прастыў. Пабедаваўшы, мужчына супакоіўся, бо машына была застрахаваная. Як жа ён здзівіўся, калі ў страхавой кампаніі, куды ён заплаціў грошы, яму спаслаліся на дэкрэт прэзідэнта і паабяцалі, што выплацяць суму ўрону тады, калі знойдзецца вінаваты ліхач і пасля таго, як сума ўрону будзе спагнана з яго праз суд на карысць кампаніі. Вось і прыехалі. Верагоднасць таго, што вінавата адумаецца і прыйдзе прасіць прабачэння, роўная нулю. Такой жа лічбе раўняецца і верагоднасць таго, што вінаватага знойдзе міліцыя. Што рабіць чалавеку, якому пашкодзілі застрахаваны аўтамабіль і па разумнаму заканадаўству паказалі кукіш? Альбо самому трэба стаць дэтэктывам, адшукаць вінаватага і запатрабаваць грошы на рамонт альбо хадзіць на прыёмы да вялікіх чыноўнікаў і прасіць іх зрабіць выключэнне з існуючых правілаў. Адно другога не лягчэй. Відавочна, што машыну рамантаваць прыйдзецца за свой кошт.


Фота А.Ліціна

## Праваабарончая старонка «СЛОВА НАРОДУ» Глыбоцкага аддзялення Беларускага Хельсінскага Камітэта



**Грамадская прыёмная Глыбоцкага аддзялення БХК па правах чалавека вядзе прыём грамадзян штодзённа з $16^{00}$ да $19^{00}$. Тэлефоны ў Глыбокім: 26938, 43754. Тэлефон Шаркоўшчынскага прадстаўніцтва БХК 23111.**

Рэха выбараў: судовы працэс у Шаркоўшчыне

# Фантастыка іншы раз становіцца явай

9 кастрычніка гэтага года ў Шаркоўшчыне павінны былі судзіць назіральніка, што працаваў у раённай выбарчай камісіі Грамовіча В.Д. Паколькі ў Васіля Данілавіча не было адваката, суд быў перанесены на 11 кастрычніка. Але і ў той дзень ён не адбыўся, бо захварэў ісцец, старшыня калгаса, ён жа старшыня Вялікасельскай выбарчай камісіі № 15 Паўловіч М.М. Пасяджэнне суда адбылося толькі 15 кастрычніка. Суд прызнаў Грамовіча В.Д. вінаватым і пакараў штрафам за распаўсюджванне паклёпу ў адносінах Паўловіча М.М.

А было так. Лук'янёнак М.С. паспрабаваў пабыць незалежным назіральнікам і паназіраць за працэсам выбараў на Вялікасельскім выбарчым участку№15. Старшынёй яго быў Паўловіч М.М. Аднойчы ён прыехаў да Лук'янёнка, запрасіў у свой аўтамабіль. Яны нейкі час размаўлялі. Старшыня паехаў, а Лук'янёнак М.С. застаўся вельмі ўзбуджаны. Сведак размовы не было, але са слоў Лук'янёнка, Паўловіч М.М. пытаўся, навошта мець лішнія непрыемнасці на працы і ў сям'і? Са слоў Райчонак А.Э., каардынатара незалежнага назірання па Шаркоўшчынскаму раёну, якой усё расказаў Лук'янёнак, Грамовіч В.Д. напісаў запыт у пракуратуру. Пракурор даў адказ, што факты пры праверцы не пацвердзіліся. Ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмовіў, але ўгледзіў ў заяве склад злачынства, якое кваліфіцыравалася па артыкулу 156(2) АК РБ (распаўсюджванне паклёпу). Старшыня Вялікасельскай выбарчай камісіі № 15 Паўловіч М.М. на гэтай падставе падаў у суд на Грамовіча В.Д. У зале суда старшыня сцвярджаў, што прыязджаў да Лук'янёнка М.С. каб прапанаваць работу, а не з іншай мэтай.

Пасля выступу сведак, суддзя Максімовіч Н.М. зачытала прысуд – “вінаваты”.

Гэта сутнасць справы, а зараз невялікі каментарый. Я сама была зарэгістравана незалежным назіральнікам ад РГА БХК у раённай камісіі Шаркоўшчыны. Якая гэта “лёгкая” праца, я добра ведаю. За ўвесь перыяд назірання я не мела ніякай інфармацыі, на свае запыты атрымоўвала адны адпіскі. Іх добра навучыліся пісаць як прадстаўнікі мясцовых улад, так і рэспубліканскіх. Калі я гаварыла, што згодна Канстытуцыі і ВК РБ выбары павінны праводзіцца адкрыта і галосна, што часткі 1 і 2 ВК РБ распаўсюджваюцца на кожнага грамадзяніна краіны, то юрыст райвыканкама Шаркоўшчыны Радкевіч Д.Б. у прысутнасці назіральніка Ляскоўскага У.К. і члена камісіі Савіцкай І.І. сказала: “Напішыце заяву, што Вы адмаўляецеся ад назірання, тады будзем размаўляць”. Гэта нешта ўнікальнае! Няўжо статус назіральніка пазбаўляе чалавека грамадзянскіх правоў? Такое я пачула першы раз у жыцці.

Я добра ведаю Грамовіча В.Д. Гэта праўдзівы, сумленны, прыстойны чалавек, якога я вельмі паважаю. Ён выконваў сваю справу, як належыць.

Што датычыць выбараў, то маё ўражанне такое: старшыні і члены камісій карысталіся нейкай іншай Канстытуцыяй, іншым Выбарчым Кодэксам, зусім не такім, як мы, незалежныя назіральнікі. Папрацаваўшы на выбарах, я чытаю 156 артыкулаў ВК РБ як нейкую фантастыку: напісанае ні ў якім разе не адпавядала рэальнасці. І прыходзіць на памяць Ж.Верн са сваім фантастычным апаведам “Тысяча лье пад вадой”, дзе ён апісаў невядомы на той час апарат, які мог плаваць у акіянскіх глыбінях. Сёння падводная лодка нікога не здзіўляе. Фантастыка іншы раз становіцца рэальнасцю. Добра, каб фантастычныя на сённяшні радкі пра правядзенне выбараў у РБ галосна і адкрыта стала явай. Калі не для нас, то хоць бы для нашых дзяцей.

*С.Табола*

# *Псіхалагічная дапамога жанчынам*



Надышоў час, калі трэба сур'ёзна паглядзець і прааналізаваць яшчэ адну праблему ў наш час. Гэта, па-першае, наш псіхалагічны настрой, па-другое, як ён уплывае на чалавека, якому трэба жыць, кожны дзень сустракацца з людзьмі, кахаць, перажываць за дзяцей, думаць, марыць… Што рабіць, калі раптам становіцца цяжка? Што здарылася? А рознае: любілі і разлучыліся, пайшоў з жыцця блізкі чалавек, неяк справіцца з сынам, дачкой, за якіх баліць сэрца, абразілі ў чарзе, на вуліцы, не хапае грошы ці іх зусім няма. У падобных сітуацыях адчуваеш сябе дыфектным, нямоглым… Я не бяруся гаварыць пра тое, што робяць праблемы з мужчынам, я скажу пра жанчыну. Псіхалагічны стан яе патрабуе добразычлівых адносін ад любога. Яна гатова ахвяраваць сабой дзеля дзяцей, якіх нарадзіла ў муках, дзеля іх дабрабыту. Яна здольна на многае, але і ёй бывае невыносна цяжка.

Ёсць рацыя пачаць выданне старонкі для жанчын, якім вельмі трэба псіхалагічная дапамога. Звяртайцеся, калі ласка, каб мы ведалі каму трэба прыйсці на дапамогу: выслухаць, падбадзёрыць, пракансультаваць, даць параду, маральна падтрымаць.

Мілыя, пяшчотныя сябоўкі! Калі ў самотны час Вы ўспомніце, што прачыталі гэтыя радкі, што Вам патрэбна псіхалагічная дапамога, тэлефануйце: 26938

*Да вас звярталася Ганна*

## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

### ЗАПРАШАЕМ:

**Газета «Вольнае Глыбокае» запрашае на працу рэпарцёра, карэктара, прадаўца. Рабочыя дні: чацвер -- панядзелак з 8[00] да 14[00]. Тэл. у Глыбокім 2-37-54, 3-76-19**

### ПРАДАМ:

**-- бляху ацынкаваную 0,55 мм -- 2,50 х 1,25;**
**-- аўтамабіль ГАЗ-53 (фургон);**
**-- фургон ізатэрмічны да ЗІЛа альбо ГАЗ-53;**
**-- вагон пад гандаль або дачу;**
**-- гараж у раёне МКК памерам 5,5. х 10,0; і хлеў**
**-- сядзібу ў вёсцы пад знос.**
**Звяртацца ў г. Глыбокім па тэл.; 2-40-17, 2-89-33 альбо 4-20-17, 4-43-25**

**-- аўтамабіль "Фольксваген-Пасат" (карбюратар) у добрым стане.**
**-- касетны магнітафон "Маяк"; стэрэаўзмацняльнік і калонкі S-90 "Радыётэхніка"; тэлевізар "Бярозка", танна. Тэл. у Глыбокім: 23128.**

**Трохпакаёвую кватэру з усімі выгодамі ў раёне МКК. Тэл. у Глыбокім: 2-48-40**

**-- Карову шасці цялят чорнай масці. Звяртацца ў вёску Вераб'і Глыбоцкага раёна да Сіманковіч Алены Антонаўны.**

**-- вязальную ручную машыну «Северянка», куплю піяніна «Беларусь», танна. Тэл. 2-15-11**

**Прадам ці абмяняю 2 дамы на адным участку на двухпакаёвую кватэру з выгодамі. Звяртацца: вул. Леніна, 83**

**-- Імпартныя змяшальнікі на кухню ад 16 да 38 тысяч рублёў; ванну ад 38 да 66 тысяч; гібкую падводку ад 40см. да 3-ох метраў; краны шаравыя на 15,20,25,32 дзюймаў. Продаж адбываецца на калгасным рынку ў Глыбокім па нядзелях каля мяснога павільёна. Тавар сертыфікаваны і мае гарантыю. Тэл у Глыбокім: 21744**

### ЗДЫМУ:

**-- здыму на працяглы тэрмін аднапакаёвую кватэру з выгодамі для аднаго чалавека. Тэл. 3-86-25, (2-11-73 з 8.00 да 18.00, Лена)**

**-- сям'я з двух чалавек здыме 1-пакаёвую кватэру. Тэл 2-14-95 да 19**

**-- здыму гараж у раёне ПТВ-168 тэрмінова на працяглы час. Тэл. у Глыбокім 2-20-07**

**Здыму адна-двухпакаёвую кватэру з выгодамі і тэлефонам у раёне МКК на працяглы тэрмін. Тэл 3-76-19 Ярослаў**

### КУПЛЮ:

**ВАЗ-2121 «Ніва» ў любым тэхнічным стане: біты, нерастаможаны, не на ходу. Разгледжу любыя варыянты. Тэл. у Наваполацку: 8-245-73042 (раніца, вечар)**



Вясковыя будні на Глыбоччыне

*Фота А. Храпавіцкага*

## *Цытата апошняй паласы:*

Што такое ўзаемавыгадны саюз дзвюх дзяржаў? Гаворачы мовай народа, гэта калі і ваўкі сытыя, і авечкі цэлыя. Але трэба заўсёды памятаць, што суседства з ваўкамі небяспечна для авечак. Калі-небудзь ваўкі згаладаюцца.

*С. Табола*

## Усё жыццё з думкай пра хлеб надзённы

**Кажуць, што Беларусь сёння жыве лепш, чым астатнія краіны былога Саюза. Даведацца як жа ўсё выглядае на самой справе, дапамогуць тавары, якія можам набыць за свае заробкі мы і нашы недалёкія суседзі.**

Так, літовец за сваю сярэднюю зарплату можа купіць больш за беларуса хлеба ў 2,7 разы, ялавічыны – у 2,4, масла – ў тры, яек – у 3,6, апельсінаў – амаль у 5 разоў, віна – амаль у чатыры, бульбы – у 3,6 разы больш.

Паляк за свой месячны заробак можа купіць больш за беларуса хлеба, мяса і масла ў 4 разы, яек у 3,6 разы, бульбы ў 6,6 , цукру -- у 6, віна і апельсінаў -- у 5 разоў. Нават расіянін за свой заробак можа купіць больш за беларуса ялавічыны ў 2 разы, астатніх неабходных прадуктаў – амаль у паўтара раза. Каб не галадаваць, у Беларусі трэба збіраць грыбы, ягады, гадаваць свіней, карову, закатваць, нарыхтоўваць. Але калі ж тады жыць? Калі займацца любімай справай? Калі адпачываць?

*Я. Савойка*

## *Гэта цікава*

Плошча Атлантычнага акіяна 91,7 млн. км². Найбольшая глыбіня 8742 метры. Атлантычны акіян займае другое месца па плошчы і глыбіні сярод 4-ох акіянаў. На першым месцы Ціхі акіян. Яго плошча 178,7 млн. км², а найбольшая глыбіня 11022 метры.

Сярод пустынь па плошчы лідыруе Сахара, што знаходзіцца ў Паўночнай Афрыцы і займае 7 млн. км². Па 2 млн. км² займаюць пустыня Гобі, што ўключае тэрыторыю Цэнтральнай Азіі, Манголіі і Кітая, і Лівійская пустыня ў Паўночнай Афрыцы.

Найдаўжэйшая ў свеце рака – Ніл (з Кагерай). Яе даўжыня складае 6671 кіламетр. Рака Волга, што ў Расіі, цягнецца ўсяго 3530 кіламетраў.

Маса галаўнога мозгу вожыка складае 3,4 грамы, дамашняй кошкі – 31,4 грамы, сабакі – 100, свінні – 150, каня – 500, чалавека – 1400 грамаў.

Сліва дамашняя жыве 15 – 16 год, груша звычайная – 200(300) год.

## Прэмія ТЭФІ Паўлу Шарамету

Журналіст ГРТ Павел Шарамет адзін з намінантаў галоўнай тэлевізійнай прэміі Расіі ТЭФІ. Яго фільм "Дзікае паляванне" прызнаны лепшым праектам у жанры журналісцкага расследавання. Уручэнне прэміі пройдзе дваццатымі днямі кастрычніка. Якраз у гэтыя дні ў Мінску будзе ісці суд па справе зніклага аператара ГРТ Дзмітрыя Завадскага.

## Балгарыя патрабуе страхоўку

З 1 снежня 2001 года для ўезду ў Балгарыю і транзітнага праезду па тэрыторыі краіны замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства павінны мець медыцынскую страхоўку. Гэтае патрабаванне будзе дзейнічаць і ў адносінах беларусаў, якія накіроўваюцца ў Балгарыю альбо транзітам праз яе.



Гаспадыня гандлёвай крамы з мілай усмешкай на твары прапануе свой тавар

*Фота Ул. Скрабатуна*

## Медаль Скарыны – рэдактару "раёнкі"

Большасць заслужаных людзей Беларусі, якім 9 кастрычніка ў сталіцы ўручаліся дзяржаўныя ўзнагароды, была ў пагонах. Цырымонія праходзіла ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы. Прыемна, што сярод больш 60-ці ўзнагароджаных быў наш калега па пяру, рэдактар мёрскай раённай газеты "Сцяг працы" Леанід Матэлёнак.

За шматгадовую працу і значны ўклад у развіццё беларускай журналістыкі ён удастоены медаля Францыска Скарыны. Газета, якой кіруе Л. Матэлёнак, імкнецца да аб'ектыўнасці, прадстаўляе самую розную інфармацыю для сваіх чытачоў, разглядае пытанні культуры, духоўнасці, гісторыі, мовы.

*У. Шык*

## «Я бачыў П`ера Рышара»

Гэта не хлусня, а чыстая праўда. 10 кастрычніка я быў у Мінску на семінары. Ішоў у гасцініцу «Беларусь», дзе жыў некалькі дзён, як убачыў, што да гасцініцы пад`ехаў шыкоўны белы лімузін «Лінкольн». Дзверы адчыніліся і з яго выйшаў... сам П'ер Рышар, зорка французскага кінематографа, любімы намі кінагерой, Асоба і Творца, чый талент ведае ўвесь свет. Адразу ж да яго паспяшылі тэлежурналісты. Я падышоў бліжэй і хацеў спытаць дазволу сфатаграфавацца з ім, але гэта мне не ўдалося. На жаль, у Палац Рэспублікі, дзе выступаў Маэстра, я не трапіў. І ўсё ж так прыемна, што на ўласныя вочы пабачыў артыста, фільмы з удзелам якога заўсёды гляджу па тэлебачанню.

*В.Саланінка*

**Набывайце газету «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку» і ў нашых распаўсюджвальнікаў**


Незалежная рэгіянальная газета «Вольнае Глыбокае»

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор: Юрый Калбасіч;
Дызайн, вёрстка: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 4 37 54 (Галіна СУТУЛА); тэл/факс 2 41 50.
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб`ём -- 1 друкаваны аркуш
Падпісана ў друк 22 кастрычніка 2001 г. у 9[00]

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 6476